# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу „Беларуск. Сялянска-Работніцкая Грамада“

№ 15 | Вільня, Аутарак, 3-га жніуня 1926 г. | № 15



## Прамова

**дэпутата Сымона Рак Міхайлоўскага з Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, сказаная на паседжаньні Сойму 21 ліпня 1926 году ў часе дыскусіі над законам аб паўнамоцтвах для Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі на выдаваньне распраджэньняў, маючых сілу закону.**

Паны! Пункт 2 ўставу аб паўнамоцтвах, які цяпер абгаворваем, зьяўляецца яшчэ адным урадавым крокам, які раскрывае палітыку сучаснага ўраду, называючагася ўрадам „направы“ зла, — урадам „маральнага адраджэньня“. Урад цьвердзіць, што паўнамоцтвы патрэбны яму на тое, каб хутка правясьці рэформы ўва ўсіх галінах, дзе толькі акажацца патрэба. Але гэтыя намераньні не перашкодзілі ўраду зрачыся паўнамоцтваў у галіне „языковых уставаў“ і самаўраду. Ці-ж бы з гэтага вынікала, што гэтыя пытаньні не вымагаюць рэвізіі? Гэтак, прынамся, думае правіца, якая ў конституцыйнай камісіі выдзяліла гэтую справу з галіны паўнамоцтваў. І ўрад скваппа згадзіўся з гэтым становішчам рэакцыі і гэтым самым зрокся правядзеньня рэформы ў гэтай галіне. Для сялян і работнікаў Заходняй Беларусі прадказвае гэтае становішча ўраду, што застанецца status quo (як ёсьць цяпер) у беларускім школьніцтве, г. зн. далейшае нішчэньне беларускага школьніцтва і далейшае кіраваньне старостай вясковымі самаўрадамі.

Дагэтачасная палітыка ўсіх польскіх урадаў у галіне школьніцтва зводзіцца да сыстэматычнага і пляновага нішчэньня беларускага нацыянальнага школьніцтва, каб у як найхутчэйшым часе зьнішчыць беларускую культуру і спольшчыць край. Асабліва драконскімі і рэакцыйнымі зьяўляюцца загады ўлады ў адносінах да народнага пачатковага школьніцтва. Улада зачыняе сотні беларускіх школ і сьведама з злоснай тэндэнцыяй высылае з краю кваліфікаваныя пэдагогічныя сілы, каб пасьля, паклікаючыся на нястачу іх, застаўшыяся яшчэ народныя беларускія школы пера-тварацъ у польскія. Гэтакім спосабам стараецца ўлада тармазіць, а навет і зусім зьнішчыць разьвіцьцё беларускай культуры, не гаворачы ўжо навет аб тым, што вучэньне беларускіх сялянскіх дзяцей чужой і незразумелай ім мовай прыкладае руку да павялічэньня ліку няграматных сярод беларуск. сялянскіх масаў. У сваіх полёнізатарскіх разгонах польская ўлада ня толькі бярэ прыклад з мэтадаў мінулага царызму, але апярэдзіла навет слаўную сыстэму царскай Расеі ў напрамку русыфікацыі і трыманьня ў цемры шырокіх масаў падняволеных народаў.

Найлепшым доказам гэтага цьверджаньня зьяўляюцца наступныя цыфровыя дадзеныя, якія красамоўней, чым усялякія словы, характэрызуюць сучасны стан беларускага школьніцтва: польская ўлада зачыніла да гэтага часу 382 пачатковыя беларускія школы, а застаўшыя яшчэ 18 урадавых беларускіх школаў перарабілі ўжо ў мінулым школьным годзе на двуязычныя, што ёсьць уступам да поўнага іх спольшчаньня. Пасьля прыняцьця „языковых уставаў“ беларускі народ пачаў адчыняць прыватныя народныя школы. З тых іменна сьвежа адчыненых беларускіх школ зачыніла ўлада ў сёл. годзе 67 школ. Цяпер засталіся ўва ўсей Заходнай Беларусі 4 — даслоўна чатыры — народныя беларускія школы. — Цыфры гэтыя гавораць самы за сябе і не патрабуюць ніякіх паясьненьняў.

Загад Міністэрства Асьветы з дня 7 студня 1925 г. вызначае парадак, у якім могуць адчыняцца беларускія школы. Народ падаў адпаведныя дэкляарацыі на адчыненьне 412 беларускіх школ, не гаворачы ўжо аб тым, што ў цэлым радзе выпадкаў гміны пазбаўлены былі права высказацца за школу ў роднай мове, дзякуючы сабатажу з боку войтаў, аб чым сьведчаць падаваныя ўжо намі ў гэтай справе соймавыя інтэрпэляцыі.

Ня гледзячы на гэтае масавае высказваньне народу за беларускую школу, ані адна беларуская школа і то даслоўна ані адна — не адчынена. Школьныя інспэктары сабатуюць „языковыя законы“ і не дапушчаюць да адчыненьня беларускіх школ, выкручваючыся нястачай адпаведных пэдагагічных сіл. Аднак, Заходняя Беларусь мае сотні выкваліфікаваных вучыцялеў, якія гвалтам і ашуканствам высланы ў каранную Польшчу.

Шовінізм польскай улады бяззьменны і так недаступны,—што навет „языковыя ўставы“, датычачыя нацыянальнага школьніцтва, зрабіліся аружжам нішчэньня беларускіх школ.

Восеньню ў 1922 г. перад выбарамі ў Сойм і Сэнат беларускае вучыцельства было паведамлена аб зьарганізаваньні для яго на кошт дзяржавы дапаўняючых пэдагагічных курсаў у Кракаве. Гэта быў падвойны ўдар, напраўлены польскай ўладай. Гэтакім чынам выкінулі з краю нацыянальна сьвядомыя адзінкі, а пасьля скончэньня курсаў выслалі іх у этнаграфічна польскія мясцовасьці, дзе і да цяпер працуе каля 200 беларускіх вучыцялеў у такіх акругах, як Кракаў, Лодзь, Рава Мазавецка, Чэнстахова, у Пазнанскім ваяводзтве і г. д. А тымчасам беларуская люднасьць дарма дамагаецца ў 27 паветах адчыненьня беларускіх школ, — бо школьныя інспэктары выкручваюцца нястачай адпаведных пэдагагічных сіл.

Беларускія вучыцялі прыкуты да сваіх школ на землях каранной Польшчы, як калісь селянін да зямлі свайго пана. — Усе іх стараньні, каб вярнуцца да роднага краю, — дарэмны.

Самаўрадавы лад у Заходняй Беларусі зводзіцца да назначэньня ў гмінах войтау, як урадавых камісараў, якія зьяўляюцца плягай для народу. Гэта зазвычай—асобы, якія спаўняюць роль пакорнага нядумаючага аружжа ў руках старастаў.

Выбіраюць іх зазвычай з г. зв. шляхты, гэта знач. з элемэнту небеларускага, з элемэнту даўнейшай калёнізацыі. Лічацца яны адказнымі толькі перад старастамі і залежнымі ад іх-жа. Урадаваньне іх заключаецца толькі ў даносе паліцыі на беларускіх сялян, на звальваньні гмінных цяжараў на найбяднейшых жыхароў гміны, на тэрарызаваньні народу паводле волі мясцовага каманданта пастарунку. Гэтыя камісары згулялі таксама ганебную роль у часе школьнага плебісцыту і яны таксама зьяўляюцца крыніцай дэмаралізацыі і праступкаў у грамадзкім жыцьці гміны.

І вось цяперашні ўрад гэтак лёка зракаецца магчымасьці зрэфармаваць гэтыя скандалічныя адносіны, зракаючыся паўнамоцтваў у галіне школьніцтва і самаўрадаў. Не кажу гэта таму, што — як бы мы хацелі даць ураду паўнамоцтвы, да цяперашняга ўраду даверыя ня маем і ніякіх паўнамоцтваў даваць яму ня будзем.

Калі падчырківаю тут зрачэньне ўраду паўнамоцтваў у гэтай галіне, то раблю гэта толькі натое, каб зьняць маску з ураду, які дэклямуе аб „направе“ зла і маральнасьці і адначасна зракаецца права, каб паправіць гэтае зло.

Мы ведаем, што ані гэты, ані іншы буржуазны урад не захоча і не патрапіць паправіць існуючага зла, бо гэтым самым нішчыў-бы самога сябе — рубаў-бы, як кажуць, галіну, на якой сядзіць. Зло, якое гняце сялян і работнікаў Заходняй Беларусі, зьяўляецца адначасна гноем, на якім расьце і трымаецца кожны рэакцыйны ўрад. Фактычную-ж паправу зла можа зрабіць толькі ўрад, у якім сядзець будуць выключна прадстаўнікі сялян і работнікаў.

Падаю прапазыку:

§ 2 ўству аб паўнамоцтвах прэзыдэнта рэспублікі выдаваць загады, якія-б мелі сілу закону—адкідаецца.

## Прамова

**дэпутата Ю. Сабалеўскага з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, сказаная ў Сойме 21. VII 1926 году ў часе дыскусіі над законам аб паўнамоцтвах для Прэзыдэнта Рэспублікі на права выдаваньня распараджэньняў, якія-б мелі сілу законаў.**

Паны! Урад сёньня дамагаецца, каб Сойм зрокся права выдаваць уставы, і перадаў гэтае права Прэзыдэнту і Ураду.

Паўнамоцтвы, якія-б урад меў атрымаць, тычацца найважнейшых галінаў гаспадарчага і грамадзкага жыцьця, бо пакідаюць ураду вольную руку ў адміністрацыі, судох і гаспадарчых справах. Так шырокіх і так далёка сягаючых паўнамоцтваў не жадаў і не атрымліваў да гэтага часу ня толькі ніводзін з папярэдніх урадаў, але наагул гэта нячуваная рэч у парлямантарным ладзе.

Клюб мой ёсьць выразіцелем жаданьняў і імкненьняў працоўных мас Заходняй Беларусі. Каб азначыць нашае становішча ў адносінах да запрапанаванага нам тут праекту, мусім разглядзець 1) адносіны пануючыя ў Заходняй Беларусі і 2) адносіны цяперашняга Ураду да нас.

Зачнем ад адміністрацыі.—Паліцыя, як палітычная, так і мундзіровая зьяўляецца крыніцай мукаў беларускага народу. З усіх куткоў нашай зямлі заўсёды атрымліваем весткі аб брутальным тэроры, аб пляновай правакацыі з боку паліцыі, аб масавых арыштах, біцьці, катаваньні і зьдзекаваньні над сялянамі і работнікамі. Мэтады тактыкі паліцыі ўва ўсіх, лічыць, выпадках аднолькавы, так што ў зьмесьце пісем і вестак з гэтай галіны зьмяняюцца мясцовасьці і асобы, а апісаньне зьдзекаў ёсьць зазвычай тое самое.

З гэтага вынікае, што тут ёсьць пэўная прынятая і прызнаная сыстэма, якая заўсёды стасуецца рознымі функцыянерамі паліцыі на ўсёй Заходняй Беларусі.—Вось як выглядае гэтая асьвенчаная ўжо традыцыяй сыстэма: з няведамых нікаму прычын зьяўляецца паліцыянт, арыштоўвае і робіць обыск, які не дае ніякіх абцяжваючых матэр'ялаў. Ня гледзячы на гэта, арыштаваныя адсылаюцца на найбліжэйшы пастарунак паліцыі, дзе жадаюць ад іх прызнньня да цэлага раду закідаў і дакладных паказаньняў у выдуманай паліцыяй справе. Пасьля паліцыя піша дэтальны пратакол і жадае падпісаньня яго. Арыштаваныя адмаўляюцца. Тады накладаюць кайданы на рукі і ногі, зьнімаюць абутак, скоўваюць рукі і ногі разам і б'юць гумовымі кіямі ў пяты.—Гэта боль, якога ніхто ня можа перанясьці і раней ці пазьней траціць прытомнасьць. Апэрацыі гэтай памагае біцьцё ў твар, біцьцё нагамі, біцьцё прыкладам і г. д.

Здараюцца таксама і арыгінальныя спосабы тэрарызаваньня, залежна ад дагадлівасьці данага ката. Так напрыклад з вёскі Райца, Наваградзкага пав., паведамляюць нас, што камандант тамашняга пастарунку, хочучы змусіць 17 летняга Зайку даць паказаньні, пагражаў хлопцу, што паставіць яго босымі нагамі на распаленае жалеза. І фактычна прынясьлі распаленае да чырвона жалеза і загадалі хлопцу скінуць абутак. Давясьці, аднак гэта да канца ў гэтым выпадку паліцыя не адважылася.

У выпадках спораў паміж сялянамі і абшарнікамі гэныя апошнія зварочваюцца не да суду, а да адміністрацыйнай улады і тады паліцыя выступае дзейна і—разумеецца—заўсёды слушнасьць з боку абшарніка. Нядаўна, у кожным выпадку пасьля т. зв. „маральнай рэволюцыі“ Пілсудскага здарыўся ў Маладэчанскім павеце гэтакі выпадак: абшарнік прадаў сэрвітутную зямлю, — новы ўласьнік выйшаў гараць купленае пасьвішча; — мясцовыя-ж сяляне спрацівіліся. І вось якая роль была ў гэтым споры паліцыі: 25 траўня прыехала паліцыя з Гарадзецкага і Караблянскага пастарунку, склікала ўсіх сялян і, злаяўшы іх, сказала, што новы ўласьнік мае права распараджацца памянутым пасьвішчам, а сяляне далей карыстаць сэрвітутам ня будуць пры чым паклікалася тут на гэтакае распараджэньне старосты. Непаслушным пагразіла арыштам. У два дні пасьля гэтага прыехаў зноў новы ўласьнік з плугамі, прычым з ім прыехала конная і пешая паліцыя, якая затаілася ў блізкіх кустох.

На пасьвішчы сабраліся кабеты, старыя дзяды і дзеці, якіх прыгнаў сюды адчай з прычыны страты пасьвішча, якое было падставай іх істнаваньня і страта якога раўнялася неабходнасьці пазбыцца быдла. І вось паліцыя, хочучы разагнаць сабраўшыхся, выскачыла з кустаў і пачала дратаваць коньмі і біць шаблямі іх. Пару гадзін цягнулася гэтая бойка, у рэзультаце якой былі пабітыя і раненыя, а частку арыштавалі—ў тым ліку дзяцей і кабет. Аб гэтых выпадках ураз-жа быў паведамлены Ваявода і Міністар Унутраных Спраў, але ці-ж у рэзультаце гэтага хоць волас упаў з галавы віноўных? Урэшце—пададзены тут выпадак зусім не зьяўляецца выняткам. Гэтакія адносіны пануюць на ўсей Заходняй Беларусі.

Як я ўжо сказаў, пануе, ня толькі агульны тэрор, але цягнецца ён ўжо цэлыя гады.—Ці дзеля гэтага можна вымагаць адказнасьці толькі ад гэтых ніжэйшых функцыянераў, якія асабіста б'юць ў пяты і ўліваюць воду праз нос? — Ці не зьяўляюцца яны толькі мячом, якім кіруе рука? — Бяз сумліву—так. Толькі загадам згары і запэўненьнем поўнай бяскарнасьці для катуючай паліцыі можна аб'ясьняць гэтыя страшныя рэчы.

А цяпер разгледзім становішча сучаснага Ураду ў адносінах да гэтага страшнага стану рэчаў. Два месяца ўжо прайшлі, як Маршалак Пілсудскі перамог на чале арміі урад Хіена-Пяста ў імя „направы зла“ і ў імя „маральнага адраджэньня“. Ці што-небудзь зьмянілася ў Заходняй Беларусі з таго часу?—Не!—Усе адміністрацыйныя ўрады абсаджаны тымі самымі урадоўцамі, якія былі катамі для беларускіх сялян і работнікаў. Усе тыя, што, працярпеўшы акрутныя катаваньні ў паліцэйскіх закаморках, былі ўкінены ў вастрогі, — і надалей застаюцца там і надалей гніюць у лёхах. Тэрор і далей трывае.

Констытуцыя забясьпечвае вольнасьць слова і сходаў. Гэтую вольнасьць дае малёваная Констытуцыя, а ў практыцы абавязвае „lex Osmołowski“ з дня 25. V. 1919 году. — § 1 гэтага дакумэнту кажа: „Публічныя сходы, вечы і маніфэстацыі пад голым небам, як у местах, так і па-за местамі ў прынцыпе забаронены“. Далейшыя параграфы абгаворваюць тыя выпадкі, калі сходы могуць адбыцца шляхам атрыманьня асобнага дазволу ад адміністрацыйнай улады, што ясна азначана ў тым-жа першым параграфе, — як выняткowы выпадак. Далей § 7 гэтай інструкцыі кажа: „Прадстаўнік адміністрацыйнай улады можа зачыніць („rozwiązać“) сход, калі прамовы зьневажаюць павагу ўлады“.—Іначай кажучы, жадаюць ад нас, каб мы хвалілі ўладу, якая нас зьневажае, тую ўладу, якая загадвае катаваць нашых грамадзян, якая цэлымі гадамі гноіць нас у вастрогах, якая зачынае нашыя школы, калёнізуе нашыя зямлі польскімі асаднікамі, нішчыць нашыя газэты і ўсё выдавецтва і г. д. Можа скажаце, паны, што гэты „lex Osmołowski” гэта старая гісторыя з 1919 году, а цапер іначай? Цяпер, паны, абавязвае ў нас інструкцыя Міністра Ратайскага з дня 27. I. 25 г., які пацьвярджае, што памянутае распараджэньне Осмолоўскага мае абавязваючую моц на абшарах ваяводзтваў: Валынскага, Палескага, Наваградзкага і Віленскага.

Мала таго гэтая-ж самая інструкцыя кажа, што распараджэньне Осмолоўскага абыймае таксама сходы, склікаsuccessfully паслами і сэнатарамі. Мы паслы, якія выступаем тут ў Сойме, як прадстаўнікі народу, якіх народ прыслаў сюды, каб баранілі яго правы і гаварылі аб яго крыўдах, — ня маем магчымасьці склікаць пасольскіх справаздаўчых вечаў, хоць Констытуцыя выразна гэтае права нам дае.

Мы мусім прасіць ваяводу, каб пазволіў нам склікаць веча. Па большай часьці ня толькі не атрымліваем дазволу, але былі выпадкі, што ваявода ардынарным спосабам гаварыў розныя недарэчнасьці паслу, а здарылася і так, што ваявода ня рачыў прыняць пасла, а толькі праз сэкрэтара прысылаў яму адмоўны адказ, пры чым спаткала гэта пасла з беларускай групіроўкі, якая лічыцца умяркованай.

Гэтак прадстаўляецца ў нас вольнасьць сходаў. Гэтак сама выглядае і вольнасьць друкаванага слова. У нас выходзяць толькі беларускія тыднявікі, а, ня гледзячы на гэта, статыстыка за 3 з паловай году падае 60 канфіскатаў.

Зачынілі цэлы рад газэт. У якіх варунках разьвіваецца беларуская прэса, хай сьведчыць факт, што ў перарывах паміж зачыненьнем газэты і атрыманьнем канцэсіі на другую,—выданы 25 аднадзёвак. Апрача канфіскацыяў стасуецца яшчэ Камісарыятам Ураду і адміністрацыяй цэлая сыстэма прасьледаваньняў і прыкрасьцяў, якія маюць на мэце стэрарызаваць, як выдаўцаў, так і чытачоў незалежнай беларускай газэты.

„Przepisy prasowe“ кажуць, каб прэсавы аддзел у працягу гадзіны даваў адказ ці нумар сканфіскаваны, і калі ў працягу гадзіны газэта не сканфіскавана, можна яе рассылаць. Камісарыят ураду ніколі не паведамляе ў прадпісаным часе, дзеля чаго радактар аддае газэту на машыну. Толькі на другі дзень паліцыя канфіскуе надрукаваную газэту ў рэдакцыі ці ў канторы адміністрацыі. Мэтады гэтыя напраўлены на матэр'яльнае зьнішчэньне выдавецтва. Бываюць канфіскаваны газэты навет за перадрук з іншых газэт або іншых легальных выдавецтваў. Камісарыят Ураду найчасьцей не паведамляе, якія стацьці сканфіскаваны, што пазноў напраўляецца на новыя матар'яльныя страты, і каб мець магчымасьць сканфіскаваць наступны нумар. Быў навет выпадак, што сканфіскавалі цэлую экспэдыцыю на пошце на другі дзень пасьля надрукаваньня, аб чым не паведамілі навет ані адміністрацыі ані рэдакцыі газэты.

Адміністрацыйныя ўлада пратрымлівае рэдактароў газэт па паўгоду ў вастрозе пад сьледзтвам, каб ня даць ім магчымасьці выдаваць газэты. З рэдактарам Антонам Пракапеняй быў такі выпадак: паклікалі яго ў паліцыю, дзе функцыянер аблаяў яго і ўдэрыў па твары, пасьля выпусьцілі яго і ня клікалі больш. Таксама быў выпадак, што пасьля канфіскацыі загадалі обыск ў рэдакцыі і адміністрацыі, прычым паліцыя бясправўна забрала аркушы з адрасамі. Каб знеахвоціць падпішчыкаў чытаць беларускія газэты, стасуецца гэткая мэтода: паліцыя робіць обыск, шукаючы нелегальных газэт, і не знайшоўшы іх, забірае навет легальныя беларускія газэты.

Вастрожнае начальства, як правіла, не дапушчае ў вастрог беларускіх газэт. На маю інтэрвэнцыю ў гэтай справе атрымаў я адказ, што адміністрацыя, ня ведаючы беларускай мовы, ня можа рабіць цэнзуры гэтых газэтаў. Памінаючы ўжо тое, што для цэнзураваньня газэт ёсьць іншая ўлада, а не адміністрацыя вастрогу, трэба зазначыць, што газэты, выдаваныя пабеларуску Паўлюкевічам, вядомым урадавым „угадоўцам“, даходзяць бяз ніякіх перашкадаў у вастрог.

Якая самаволя пануе пры канфіскацыях нашых газэт, сьведчыць факт, што на судох рэдактары па большай часьці апраўданы, хоць ніхто, хіба, ня можа западозрыць нашыя суды ў паблажлівасьці. Апошні нумар газэты „Беларуская Справа“ таксама быў сканфіскаваны за аб'ектыўную стацьцю аб адносінах ў Радавай Беларусі.

Далей Урад дамагаецца паўнамоцтваў у галіне „ўпарадкаваньня“ праўнага стану і вымеру „справядлівасьці“, як кажа § 1 гэтага ўставу. Па якім прынцыпе вымяраецца сёньня ў Польшчы справядлівасьць?—Па прынцыпе перанятых ад даўнейшых „заборцаў“ Польшчы кодэксаў. Кодэксы гэтыя пісаліся царскімі правадаўцамі для падтрыманьня абсолютызму і рэакцыі, для прыгняценьня працоўнага народу. Сеньня паводле гэтых самых кодэксаў судзяць польскія суды.

Мала таго, царскі кодэкс з 1864 году даваў нам суды прысяжных, ад часу-жа далучэньня нашага краю да Польшчы, абавязуюць яшчэ больш рэакцыйныя правілы, чым тыя, што стасаваў да нас урад цара Мікалая. Вымер „справядлівасьці“ выключна залежыць ад волі судзьдзяў, якія трымаюць у сваіх руках выключны манаполь на справядлівасьць. Для характарыстыкі ўрадуючых у Заходняй Беларусі судзьдзяў, трэба зазначыць, што гэта пераважна быўшыя царскія судзьдзі-гэроі з эпохі Сталыпіна, рукі якіх запэцканы ў кроў сялян і работнікаў, якія змагаліся тады з урадам цара. Не адзін з іх задакумантаваў сваім подпісам т. зв. „столыпінскій галстук“. Гэты лік „мужаў справядлівасьці“ павялічыўся яшчэ пасьля расейскай рэвалюцыі, якая выкінула з краю шумовіны бюрократыі царскай Расеі. А сёньня ў Польшчы, якую гэтая рэвалюцыя вызваліла, гэтыя людзі зьяўляюцца панамі жыцьця і сьмерці беларускіх сялян і работнікаў. Аб якімсьці аб'ектывізме ня можа быць і мовы. Вядомыя мне выпадкі, што прадстаўнікі пракурорскага нагляду віленскай судовай акругі, дамагаючыся жорсткай кары падсудных, пакліквaліся на свае асабістыя перажываньні ў Радавай Расеі, даючы яўнае выражэньне асабістай помсьце, дамагаліся абсалютнай кары для падсудных, як для прадстаўнікоў „збальшавізованай чэрні“. На гэтакі тытул заслугоўвае, паводле гэтых паноў, кожны, хто сьмее крытыкаваць цяперашні лад і самаволю адміністрацыі.

Можна сабе прадставіць, як выглядае пры гэтакіх судзьдзях вымер справядлівасьці. Для характэрыстыкі даволі будзе падаць наступныя факты з Наваградзкага суду:

23 чэрвэня сёл. году (значыць,—таксама ўжо пасьля „маральнай рэволюцыі“) адбыўся працэс „пшодоўніка“ палітычнай паліцыі Пёнткоўскага, канфідэнта паліцыі Сэйфэра і іншых за арганізаваньне правакацыі. Пёнткоўскі, які арганізаваў правакацыю, быў апраўданы, тады як выконваючыя яго загады дасталі да 2-х гадоў вастрогу.— Затое як на лаве абвінавачаных сядзе селянін ці работнік, то суд задавальняецца найбольш няпэўнымі доказамі і вызначае найвышэйшыя кары.

Ня маем таксама ніякіх ілюзіяў аб тым, якую палітыку вeў-бы ўрад у галіне землябробства і лесаводзтва. Сам факт паклiканьня на Міністра ў гэтым Урадзе прадстаўніка „крэсавага“ абшарніцтва зьяўляецца красамоўным паясьненьнем палітыкі Ураду ў гэтай галіне. Што гэтак зразумела і праводзіць ў жыцьцё думку ўраду адміністрацыя і абшарніцкая кляса ў Заходняй Беларусі, не падлягае ніякаму сумліву. Ніколі яшчэ не таптали абшарнікі гэтак яўна і цынічна сэрвітутныя правы сялян, ніколі ня было яшчэ гэтулькі спорак за зямлю, як гэта робіцца цяпер пасьля „маральнай рэвалюцыі“. У выпадках спораў з сялянамі абшарнікі не ўважаюць ужо навет патрэбным ісьці ў суд, але клічуць паліцыю, якая даказвае ясна — панскія правы кіем у пяты, прыкладам ружжа або шабляй.

Калі гаварыць аб лесаводзтве, то Белавеская Пушча зьяўляецца прадметам грабіцельскага вывазу, які пагражае ёй поўным вынішчэньнем, калі гэтак пойдзе й далей.

Дзеля таго, што палітыка Ураду ўва ўсіх гэтых вышэй памянутых галінах вядзецца проці інтарэсаў сялян і работнікаў Заходняй Беларусі, падаю ад імя Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады прапазыку:

§ 1 уставу аб паўнамоцтвах Прэзыдэнту Рэспублікі выдаваць распараджэньні з сілаю закону — адкідаецца.

---

# Прапазыцыя

дэпутата **Мятлы** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў

**у справе безадкладнай помачы жыхаром Дзісьненскага пав., пацярпеўшым ад граду.**

У першай палове гэтага месяца вялікі град зьнішчыў ураджай у цэлым радзе мясцовасьцяў Дзісьненскага пав. Дадаць трэба, што град зьнішчыў толькі рэшткі ўраджаю, бо гэты год быў асабліва неўраджайным у гэтых мясцовасьцях: жыто радзіла ў 15 — 20% сярэдняга ўраджаю, а вясеньнія пасевы — асабліва лён, які ў значнай колькасьці там сеяцца — зусім прапалі, дзякуючы дагэтачаснай засусе.

Градам зьбіла наступныя мясцовасьці: мястэчка Глыбокае і належачыя да Глыбоцкай гм. вёскі: Чычалы, Строцкае, Харазкі, Шуневічы, Бановілаўшчына, хвальварак Жукі, Навясёлкі, Падгае, Шайтароўка, Ласковіцы, Абруб Ластавіцкі, Ластавіцы, Дзехтары, Кавалі, Мацясы, Шунеўцы, Міхайлоўцы, а таксама належачыя да Верхнянскай гміны: Вально і хвальварак Віткі.

Дзеля вышэй пададзенага падпісаныя складаюць прапазыцыю:

Высокі Сойм рачыць пастанавіць:

1) Ураз-жа даць грашавую дапамагу і дапамогу прадуктамі для жыхароў вышэй памяненых мясцовасьцяў, пацярпеўшых ад граду;

2) Звольніць вышэй памянутых ад усялякіх падаткаў і помачы ў натуры для Дзяржавы.

Варшава 30 ліпня 1926 года.

---

# Інтэрпэляцыя №. 78

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў ў

**справе бясправўнага арыштаваньня і біцьця малалетнага Зайкі і 60-ці летняга Еўсея.**

Заходняя Беларусь зьяўляецца краем нячуванага тэрору. Паліцыя пры маўклівым споўудзеле адміністрацыйнай улады і адказных сфэр зьдзекуецца нялюдзкім спосабам над безбаронным народам. Гэтакі стан цягнецца ўжо цэлыя гады. Без павялічэньня трэба сцьвердзіць, што арышты і катаваньні арыштаваных у Заходняй Беларусі зьяўляюцца агульнымі і масовымі.

З Наваградзкага пав. паведамляюць нас:

У в. Райца ў часе Вялікадня хтось з учасьнікаў на усеначнай курыў на званьніцы і вецер вырваў у яго папер для курэньня. Зьявілася па якімсь часе паліцыя і рашыла, што гэта была раскідана камуністычная літэратура—і пачалі шукаць віноўных.

Зпачатку арыштавалі мясцовага сьвяшчэньніка і царкоўных служыцеляў. Але аказалася, што ўсе яны тады былі заняты царкоўнай службай. Тады арыштавалі 16-ці летняга Кастуся Зайку, які званіў на званьніцы і 60-ці летняга Аляксея Еўсея, аб якім казалі, што быў тады на хорах. Ад арыштаваных зажадалі: „або прызнацца, што раскідалі камуністычную літэратуру, або выказаць, хто гэта зрабіў“. Арыштаваныя—ясна—не маглі даць адказу на гэтак сфармованае пытаньне, бо ня бачылі, каб хто-нібудзь штось раск даў са званьніцы Тады камандант мясцовага пастарунку пробаваў вымусіць паказаньні біцьцём. Да якой ступені тэрорызавалі арыштаваных, сьведчыць факт, што камандант загадаў распаліць жалеза і паставіць на ім Зайку. Была прынесена распаленая да чырвона бляха. Камандант загадаў хлапцу зьняць абутак і стаць на распаленам жалезе, калі ня выкажа віноўніка. Калі аднак пабачылі, што хлапец навет перад гэткай пагрозай нічога ня можа выявіць, пакінулі гэтыя катаваньні.

Пасьля адаслалі арыштаваных да Наваградку. Наваградзкая паліцыя ўжо слынна сваімі сыстэмамі „баданя“. Памянутых вышэй арыштаваных таксама білі і катавалі спосабамі, якія толькі маглі выдумаць. Старога дзеда звольнілі ўжо ў тыдзень, баючыся, што ня здолее вынясьці мукаў. Але Зайку трымалі 3 тыдні. Праз увесь гэты час чуць ня што-дня катавалі ахвяру — паводле ўжо прынятых мэтадаў: білі па твары, гумовымі кіямі білі ў пяты, улівалі воду праз нос і г. д. Праз тры тыдні,—дзеля таго, што арыштаваны, ня гледзячы на робленыя яму мукі, нічога ня мог выявіць,—звольнілі яго. Быў ён паўжывы.

Падаючы гэта да ведама п. Міністра, ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа было праведзена следзтва ў гэтай справе?

2) Ці віноўныя тэрорызаваньня, біцця і катаваньня арыштаваных будуць звольнены з сваіх месцаў і пацягнуты да карнай адказнасьці?

Варшава 1926 году.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя № 79

дэпутата **Валошына** з беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да пана Міністра Рэлігійн. Вызн. і Публічнае Асьветы ў **справе бяспраўнай пастановы гміннай рады ў Крынках аб перанясеньні школьнага будынку з в. Саннікі і таляраваньня гэтай пастановы школьнай уладай.**

Імкненьне, каб сапхнуць беларускі народ у стан цемры і адабраньня ў яго нацыянальнай сьвядомасьці, стварае сыстэму тапеньня беларускага школьніцтва. Сотні істнуючых ужо беларускіх школ зачынілі. Цэлыя масы беларускіх вучыцялёў пазбаўлены магчымасьці вучыць і аддадзены на лёс безработных. Ня толькі не адчыняюць, ня гледзячы на дамаганьне народу, беларускіх школ, але навет не разьбіраюцца ў срэдствах, каб істнуючыя яшчэ беларускія школы замяніць на двуязычныя, або зусім на польскія. Нядаўна быў выпадак у в. Зблянах Лідзкага пав., што будынак беларускай школы пастанавілі разабраць і перавязьці у суседняе мястэчка, дзе ўжо мела быць польская школа. А цяпер вось падаем новы падобны выпадак. Гэта мэтады, якія пабіваюць усе ведамыя да гэтай пары ў гэтай галіне рэкорды.

З Горадзенскага пав. нам пішуць:

У 1912 годзе ў в. Саннікі за ўласныя нашыя грошы была збудована школа, якая за часоў польскіх функцыянавала да 15 лютага 1925 году. 15-а лютага мінуў год, як па загаду школьнага інспэктара на Горадзенскі павет школа наша была зачынена з прычын нам ня ведамых. Таго-ж самага дня падалі мы просьбу да п. школьнага інспэктара, каб вызначыў нам вучыцеля і адчыніў школу. Вучыцеля ня вызначылі, школа па сёньняшні дзень зачынена, дзеці ў школьным веку ў ліку 25 і да школьным да 30 знаходзяцца цяпер бяз ніякай асьветы. 8-га чэрвеня сёл. году гмінная рада на чале з войтам п. Кундзічам пастанавіла перанясьці наш уласны школьны будынак у в. Макараўцы гэтае-ж гміны. Паседжаньне гміннай рады адбылося бяз нашага паўнамоцніка. Калі зважыць, што в. Саннікі, у якой — проста — крадуць школу, зьяўляецца праваслаўнай, а в. Макараўцы, якой мае быць падарована школа—зьяўляецца каталіцкай, то зразумела вышэй пададзеная пастанова гміннай рады: улада спадзяецца хутчэйшага працэсу спольшчаньня школы ў вёсцы, жыхары якой знаходзяцца пад уплывам каталіцкага клеру.

Ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці навет гэтак прымітыўныя мэтады тапеньня беларускага школьніцтва стасуюцца з яго ведама і дазволу?

2) а калі не, то

Што маніцца застасаваць, каб ураз-жа зануляваць бяспраўную пастанову гміннай рады ў Крынках?

3) Ці адпаведныя школьныя ўлады, талерyючыя гэтае бяспраўе, будуць пацягнуты да адказнасьці?

Варшава, 17 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя №. 80

дэпутата **Сабалеўскага** з Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Справядлівасьці ў **справе талераваньня і затушаваньня судовай уладай закатаваньня вязьня Фэлікса Канапацкага ў Вялейцы.**

Польская ўлада ўнасьледавала пасьля заборцаў ня толькі тэрыторыю, але і дух, які на тых землях панаваў.

Прадстаўнікі сялянскай і работніцкай клясы ўкідаюцца ў вастрогі, каб такім чынам аслабіць грамадзкі рух гэтых клясаў. Але і тады, калі гэтыя людзі, як вязьні, ня маюць ані свабоды руху, ані магчымасьці публічна скардзіцца — ўлада не перастае тыраньнічаць над імі і прасьледаваць навет у вастрогах.

За вастрожнымі мурамі хаваецца не адна панурая трагедыя.

Цяпер атрымалі мы вестку аб забіцьці вязьня Фэлікса Канапацкага ў вастрозе ў Вялейцы ў верасьні 1925 году. Год прайшоў ад таго часу, а толькі цяпер даведалася грамадзянства аб гэтым факце. Факт гэты ня зьдзівіць нікога, хто ведае, як старанна вастрог хавае свае тайны. Для сялян і работнікаў гэтая спозьненая на год вестка ня ёсьць неактуальнай, — сялянска работніцкія масы і цяпер дамагаюцца разьлічэньня за жыцьцё замучанага таварыша.

Вось як апісвае гэтую справу вязень з Вялейкі.

„16 жніўня 1925 году пасадзілі мяне ў вастрог у Вялейцы, дзе ў той-жа дзень выбухла галадоўка, як пратэст проці тэрорызаваньня і мукаў вязьняў і дамаганьне застасаваньня „акольніка" мін. Макоўскага. Жаданьні былі наступныя: 1) палепшаньне кармленьня, 2) стасаваньне належных прагулак, 3) дапушчэньне газэтаў і кніжак 4) выданьне адзежы і г. д.

У адказ на галадоўку прывёў начальнік вастрогу рады паліцыі, загадаў закуць ў кайданы некалькі дзесяткаў вязьняў, пасьля чаго скаваных білі гумовымі кіямі ў пяты і па далонях. Білі таксама прыкладамі. Пасьля ўкінулі скаваных ў цямніцу. Найбольш мучылі Фэлікса Канапацкага і двох іншых, прозьвішча якіх ня памятую. Трымалі іх скаваных ў цямніцы тры тыдні. Праз увесь гэты час што дня іх білі. У рэзультаце знайшлі Канапацкага мёртвым.

Вастрожная адміністрацыя злажыла рапарт аб самагубстве вязьня, але гэта ня праўда: цела Канапацкага ўсё была чорнае ад сінякаў і параненьняў. Уся гэтая справа затушавана; Можна сказаць, ніякага сьледзтва ня было. Пракурор — што праўда — абходзіў камэры пасьля гэтага выпадку, але вязьні былі так стэрарызаваны, што ні адзін не пасьмеў казаць аб гэтым.

Пасьведчыць аб гэтай справе могуць вязьні: Міхал Санько, Мікалай Рак, пасаджаныя ў вастрозе ў Вялейцы; Янка Пашкевіч і Густоўскі, пасаджаныя ў вастрозе ў Вільні; Базыль Рачынскі— ў вастрозе ў Наваградку.

(—) Язеп Хмялеўскі
вязень у Наваградку.

Дзеля вышэй сказанага падпісаныя пытаюцца:

1) Ці маніцца п. Міністар загадаць узнавіць судовае сьледзтва і аддаць віноўных пад суд?

2) Ці склонны будзе аддаць пад суд пракурора за талераваньне і затушаваньне справы вышэй апісанага забойства?

Варшава 17. VII. 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя № 81

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў у **справе арыштаў і катаваньняў у Ваўкавыскім павеце.**

Прасьледаваньне і катаваньне беларускай люднасьці не перастаюць, ня гледзячы на нясупынныя інтэрпэляцыі нашага Клюбу. І гэта зьяўляецца нязьбітым адказам, што абшарніцка-капіталістычная польская ўлада вядзе ўпорную і сыстэматычную барацьбу з нацыянальным беларускім рухам, а таксама ўсялякім сацыяльна-клясавым рухам сялянска-работніцкай працоўнай клясы.

З Ваўкавыскага павету нам пішуць:

Ад 30, V. да 9. VI сёл. году ў вёсках Пацавічы, Малькавічы, Асаўмяны, Боркі, Самыловічы, Ліхнічы, Зэльвяне, Калядзічы і іншых вёсках Пескаўскай гм., Ваўкавыскага пав. адбыліся масавыя вобыскі і арышты сярод беларускіх сялян. Вобыскі ня далі ніякіх рэзультатаў, і, ня гледзячы на гэта, арыштавалі да 75 асоб, закідаючы ім камунізм.

На гэтую оргію прыехала цэлая армія мундзіровай паліцыі і дэфэнзывы. І вось распачаліся катаваньні і зьдзекі над нявіннымі і безбароннымі людзьмі. Спасярод гэтых катаў асабліва адзначаўся п. Абручоў. Ен і яго калегі-каты білі людзей да ўтраты прытомнасьці, пасьля чуцілі іх вадой, і тады, зьвязаўшы ім рукі і ногі і працягнуўшы паміж локці і калені шаблю — ўлівалі ім у нос мешаніну наступнага складу: вада, ацтовы квас, соль і камфаровы сьпірытус. Потым змушалі, каб ахвяры гэтыя прызнаваліся да таго, чаго жадалі каты; а хто не прызнаваўся — ізноў білі гэтаксама.

Частку тых ахвяр пасьля дзікіх і нялюдзкіх катаваньняў звольнілі, частку-ж адаслалі ў вастрог у Ваўкавыск, дзе і цяпер нявінна сядзяць.

Дзеля вышэй сказанага, ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці ведама яму аб гэтым?

2) Ці нарэшце будзе паложаны канец сыстэматычнаму і плянаваму прасьледаваньню сялянска-работніцкай беларускай клясы?

3) Ці маніцца п. Міністар ураз-жа загадаць сьледзтва ў гэтай справе і пацягнуць віноўных де карнай адказнасьці і звольніць іх з сваіх становішчаў?

4) Ці будуць ураз-жа ахвяры вышэй апісаных катаваньняў звольнены з Ваўкавыскага вастрогу?

Варшава, 21 ліпня 1926 году.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя №. 82

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ца п. Міністра Рэліг. Вызнан. і Публічнае Асьветы ў **справе адмоўнага адказу школьнага Інспэктара на Вялейскі пав. на дамаганьне беларускай школы сялян вёсак Васулькі, Міцкавічы, Княгініна і ст. Крывічы, Крывіцкай гм., Вялейскага пав.**

„Языковыя ўставы" засталіся пустым гукам— гукам патрэбным польскай буржуазіі для заграніцы. Беларускія школы на жаданьні беларускай люднасьці ня толькі не адчыняюцца, але навет школьная ўлада імкнецца зьліквідаваць тыя пару школ, якія яшчэ ўцалелі.

На жаданьне беларускіх сялян школы для сваіх дзяцей у матчыняй мове школьныя інспэктары палітыкуюць, круцяць, як толькі могуць, абы толькі ня даць школы. Адмаўляюць ня толькі, апіраючыся на нязначныя матывы, што даказвае злую іх волю, але апіраюцца навет на матывах, зусім няслушных, ілжывых.

Вось факт:

Язэп Антановіч — упаважнены сялян вёсак Васюлькі, Міцкавічы, Княгініна і ст. Крывічы, старацца перад школьнай уладай беларускай школы ў в. Княгініна, — 24 сакавіка 1924 году падаў школьнаму інспэктару на вялейскі пав. просьбу і 32 дэклярацыі на 52 дзяцей, бацькі якіх дамагаліся беларускай школы, і прасіў замяніць істнуючую там польскую школу на школу з выкладовай мовай беларускай.

У траўні сёл. году праз Солтыса в. Васюлькі была абвешчана пастанова п. інспэктара, што школы з выкладовай мовай беларускай у в. Княгініна быць ня можа з прычыны нястачы адпаведнага ліку дзяцей.

Упаважнены Язэп Антановіч запярэчыў гэтаму, сцьвярджаючы, што з ліку 52 дзяцей бракуе толькі 3—Янкі, Ляваня і Марылі Клемяцічаў, якія пераехалі ў в. Зарэчнае да тамашняй школы, — а значыць, засталася 49 дзяцей, якія прагнуць школы з выкладовай матчынай мовай.

Тады на гэтае запярэчаньне п. інспэктар выкрутна адказаў паведамленьнем з дня 4. VI. 1926 г. № 1980, — што ў в. Княгініна польская школа ня можа быць заменена на беларускую таму, што Крывыцкая гміна „мае менш, чым 25% беларусаў".

У Крывіцкай-жа гм. 50% праваслаўных, якія ўсе ўважаюць сябе сьвядомымі беларусамі, і апрача таго 30% катакікоў таксама сьвядомыя беларусы.

З гэтай палітыкі п. інспэктара вынікае, што кіруецца ён злою воляй і апіраецца на няслушныя матывы, абы толькі ня даць дазволу на беларускую школу.

Падаючы гэта да ведама п. Міністра, ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці ведама п. Міністру аб гэтакай палітыцы паноў школьных інспэктароў у адносінах да жаданьня беларускай люднасьці школы ў роднай мове.

2) Ці маніцца п. Міністар ураз-жа загадаць, каб у 1926/27 школьным годзе была адчынена ў в. Княгініне беларуская школа, згодна з жаданьнем люднасьці?

3) Ці віноўны п. школьны інспэктар на Вялейскі пав. будзе звольнены з свайго становішча і пацягнуты да адказнасьці?

Варшава 23. VII. 26 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя № 83

дэпутата **Пётра Мятлы** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Працы і Грамадзкай Апекі ў **справе бяспраўнага ўстрыманьня выплаты інвалідзкай рэнты Антону Фурсу.**

Дзяржаўныя ашчаднасьці праводзяцца коштам найбяднейшай часткі грамадзянства, коштам грашавых запамогаў удовам і ваенным інвалідам. Ня толькі засталіся без запамогі цэлыя рады ваенных інвалідаў, але навет тым, якія выхлапаталі права на дапамогу — ўстрымоўваюць выплату.

Інвалід Антон Фурс, належачы да Язьненскай гм., Дзісьненскага пав. атрымліваў рэнту да 30.IX. 1923 г. Пасьля паведамілі яго, што надалей будзе высылаць дапамогу „Izba Skarbowa", Аддзел рэнтаў, у Варшаве, вул. Налевкі 4. Да гэтай аднак пары, г. ё ўжо чуць ня 3 гады, „Izba Skarbowa" памяненай дапамогі зусім ня выплачвае.

Падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа высьнілі прычыну ўстрыманьня інвалідзкай дапамогі Антону Фурсу?

2) Ці маніцца загадаць, каб ураз-жа выплацілі дапамагу памянёнаму інваліду з вынагроджаньнем за час затрыманьня?

Варшава, 22 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя № 84

дэпутата **Ю. Сабалеўскага** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Скарбу і Унутраных Спраў у **справе бяспраўнага засэквэстраваньня палатна на бяспраўныя падаткі сэквэстратарам скарбовага ўраду Якам Васілеўскім у грамадз. Кастуся Бялевіча, пражываючага ў хвальварку Савашы, Карэльскай гм., Наваградзкага пав. і ў справе прысваеньня паловы гэтага палатна памянёным сэквэстратарам.**

Паліцыянт і экзэкутар — гэта дзьве плягі, абрыджаючыя жыцьцё беларускаму селяніну. Экзэкутар лупіць сёмую скуру з селяніна, каб за

яго ўласныя грошы аплаціць бізун, які яго б'е. Для павялічэньня зла самаволя ўрадоўцаў так разгулялася, што бяруць ад сялян адзін і той самы падатак некалькі разоў.

У канцы траўня сёл. году да вышэй памянёнага грамадзяніна прыйшоў сэквэстратар Ян Васілеўскі, жадаючы нібы-належачага падатку ў суме каля 65 зл.

На апраўдываньне дакумантамі К. Бялевіча аб урэгулеваньні ўсіх належачых падаткаў, экзэкутар Васілеўскі не зьвярнуў найменшай увагі і, налажыўшы сэквэстр на $1^{1}/_{2}$-гадовае цяля, выйшоў ад Бялевіча, які зараз-жа пайшоў у гміну, каб выясьніць гэты інцыдэнт. Гмінны ўрад ніякіх выясьненьняў у гэтай справе ня мог даць, пацьвердзіў аднак, што Бялевіч усе падаткі мае ўрэгуляванымі.

У месяц пасьля гэтага ізноў прыйшоў п. Васілеўскі і, пасьля розных ператоржкаў-гутарак, схапіў, як сэквэстр, палатно Бялевіча; — у абароне палатна стала хворая жонка Бялевіча. Ня гледзячы на яе хвараблівы стан, сэквэстратар Васілеўскі ўдэрыў яе нагою некалькі разоў у грудзі. У абароне пацярпеўшай сталі сыны яе. Сэквэстратар, аблаяўшы Бялевічаў нягодна-брыдкімі славамі, пакінуў іх хату; увечары, аднак, прыйшоў ізноў разам з паліцыянтам Ажухам. Засэквэсэравалі палатно, як пацярпеўшы кажа, вартасьці каля 200 злотых. Ацанілі ж яго на 21 зл. 80 гр. Напісалі пратакол, дзе зазначылі што бяруць адзін кавалак палатна, а ўзялі — два. Калі Бялевіч пайшоў з скаргай да гміны, то гмінны сэкрэтар сказаў яму: „шчасьце, што не застрэліў цябе, я-бы гэта зрабіў".

Хочучы, аднак, палажыць канец скаргам Бялевіча, сэквэстратар у пару дзён пасьля прыслаў да пацярпеўшага Бялевіча каманданта пастарунку, які напісаў пратакол, каб пацягнуць Бялевіча да адказнасьці нібы за супраціў уладзе.

Гэтак — вось — сэквэстратары сьцягваюць падаткі. Ня толькі робіцца бяспраўе, але — і кражы, а ў дадатак яшчэ селянін аказваецца віноўным.

Дзеля вышэй сказанага ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны п. Міністар Скарбу загадаць, каб зьвярнулі Бялевічу бяспраўна засэквэстраванае палатно, або фактычную вартасьць яго—200 зл.?

2) Ці склонны будзе п. Міністар Унутраных Спраў пацягнуць да адказнасьці сэквэстратара Яна Васілеўскага і паліцыянта Ожуха за кражу аднаго кавалка палатна і бяспраўе ў адносінах да Бялевіча?

Варшава, 22 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

# Інтэрпэляцыя №. 85

дэпутата **Валошына** з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Працы і Грамадзкай Апэкі **ў справе затрыманьня фірмаю „Хмелеўскі і Рапп" належачых работнікам выплатаў.**

Работнікі, працуючыя пры будове мосту ў Лунне, Горадзенскага пав., пішуць нам аб наступным:

Ужо больш шасьці месяцаў фірма Хмелеўскі і Рапп ня выплачвае работнікам належачых ім грошай. Умова была зроблена пры пасрэдніцтве Акружнай Дырэкцыі Публічных Работ у Беластоку. Цяпер праца каля будовы мосту з гэтай прычыны затрымана. Работнікі зьвярталіся ўжо некалькі разоў у гэтай справе да ваяводы у Беластоку, але не атрымалі аднак ніякага адказу. У сакавіку сёл. году прыехаў на месца работы дэлэгат з Акружнай Дырэкцыі Публічных Работ у Беластоку і запэўніў работнікаў, што ў найбліжэйшых днях атрымаюць заплату, што аднак да гэтага часу ня зроблена.

Работнікі з сям'ямі знаходзяцца ў вялікай нудзе. Ад даўнага часу жывяцца лясным карэньнямі. Двох з іх умерлі літэральна ад голаду. Каса Хворых адмаўляе ім у помачы, ня гледзячы на тое, што работнікі плацілі ўкладкі, як атрымоўвалі заплату.

Ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці і які загад маніцца выдаць, каб ураз-жа змусіць вышэй памянутую фірму выплаціць работнікам належныя ім грошы?

2) Ці склонны ён выдаць адпаведны загад, каб выплацілі работнікам за страты, якія панясьлі яны з прычыны затрыманьня выплаты?

3) Ці маніцца пацягнуць да адказнасьці адпаведную ўправу публічных работ за ігнараваньне работніцкіх інтарэсаў?

Варшава 22 ліпня 1926 году.

**Інтэрпэлянты.**

---

# Інтэрпэляцыя № 86

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Справядлівасьці **ў справе арышту і пратрыманьня ў вастрозе Аляксандра Яновіча з в. Гэдзалы, Беліцкай гм., Лідзкага пав.**

Сыстэма тэрору і правакацыі і надалей стасуецца з няменшай сілай і бяскарнасьцяй на землях Заходнай Беларусі.

Вось як апісвае нам Язэп Яновіч, жыхар вышэй памяненай вёскі, прычыны арышту яго сына:

22 сакавіка сёл. году Аляксандар Яновіч, прадаўшы дровы на торзе, увайшоў у рэстаран Новіка ў м. Дзятлаве. У рэстаране спаткаў знаёмых з суседніх вёсак. У агульнай гутарцы абедаючыя гаварылі аб мінулых выбарах да Сойму, пры чым Яновіч сказаў, што галасаваў і агітаваў за сьпісак № 16. Уласьнік рэстарану, якога ўсе ўважаюць за конфідэнта паліцыі, падслухаўшы гэтую гутарку, паклікаў паліцыянта і сказаў яму арыштаваць Яновіча. Арыштаваны адасланы ў вастрог у Слонім, дзе да цяпер сядзіць пад закідам прыналежнасьці да камуністычнай партыі.

Характэрна, што няпрыхільнасьць паліцыі да Яновіча датуецца — як паведамляюць жыхары в. Гэдзалы,— ад часу, калі ў вёску прыехаў якісьць пэпээсавец у вельмі западозранай кампаніі і прабаваў залажыць партыйную арганізацыю. Яновіч быў прысутны на сходзе і высказаўся проці гэтых спробаў атуманьваньня беларускага народу.

Ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці склонны ён загадаць ураз-жа правясьці сьледзтва ў гэтай справе, каб ураз-жа звольніць бяспраўна арыштаванага Яновіча?

2) Ці віноўныя бяспраўнага арышту вышэй памянутага грамадзяніна і зацягненьня сьледзтва ў гэтай справе будуць пацягнуты да адказнасьці?

Варшава 22 ліпня 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

# Інтэрпэляцыя № 87

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе бяспраўнага ўмешваньня адміністрацыйнай улады Дзісьненскага пав. да прыватнага спору абшарніка з сялянамі за пасьвішча.**

Апошнім часам абшарнікі ў Заходняй Беларусі ўзялі новы курс у адносінах да сялян: салідарна і масава адбіраюць у сялян права карыстацца сэрвітутам на землях, якія з незапамятных часоў былі сэрвітутовымі. „Траўнёвы пераварот", ня толькі не зьмяніў гэтага стану рэчаў, але больш яшчэ завастрыў яго, бо абшарнікі, ня толькі яшчэ брутальней паступаюць пасьля 12 траўня, але знайшлі яшчэ новыя мэтады барацьбы з сялянамі. А іменна, зьвяртаюцца ў выпадках спору за зямлю ўжо не да суду, як было да гэтага часу прынята, але да адміністрацыйнай улады. У рэзультаце зьяўляецца паліцыя на месца спору, загадвае сялянам, каб яны прызналі слушнасьць абшарніка, а ў разе супраціву пагражае арыштам і г. п.; калі-ж сяляне не падпарадкуюцца гэтым загадам, то паліцыя страляе, б'е, зьдзекуецца і г. п. Бяспраўе гэтае прыймае ў Заходняй Беларусі агульны характар з зусім выразным паваротам да часоў паншчыны. Папраўдзе „права" не пазваляе паліцыі мяшацца ў гэтага роду справы і перадае іх выключна компэтэнцыі суду, але гэта не абавязвае нашай паліцыі. Для апраўданьня свайго ўдзелу і сваіх гвалтаў паліцыя заўсёды мае на ўслугі „względy polityczne". Так і ў гэтых выпадках — хай толькі сяляне не паслухалі-б паліцыі і не зрабілі б паводле волі абшарніка, то зараз-жа будзе мець месца „бунт, не пазволены сход, плянавы замах" і г. п.—і ўсе гвалты паліцыі будуць апраўданы.

Аб гэтакіх выпадках паведамлялі мы п. Міністра ў форме інтэрпэляцыі.

А вось яшчэ падобны факт:

У Дзісьненскім пав. побач з мястэчкам Лужкі ёсьць маёнтак Пляттэрзільберга, якім загадвае нейкі п. Анцэн, выбітны сябра мясцовага саюзу абшарнікаў і гэтым самым дыктатар павету. Жыхары м-ка Лужкі ад няпамятных часоў карысталіся належачым да памянёнага маёнтку і абцяжаным сэрвітутам пасьвішчам. Пад канец траўня п. Анцэн рашыў аднак адмовіць сялянам у праве карыстаньня сэрвітугам. Каб даказаць сваю сілу і ўладу, зьвярнуўся абшарнік да мясцовага старосты, які абяцаў яму служыць усім сваім уплывам у павеце і выдаў адпаведны загад адпаведнаму пастарунку паліцыі. У гэтую справу ўмяшаліся дзейна заступнік старосты Шчансновіч і мясцовы пастарунак паліцыі. Мясцовыя сяляне, ведаючыя з практыкі, што права і сіла — гэта дзьве розныя рэчы, пробавалі паразумецца з камандантам паліцыі ў Лужках. З гэтаю мэтай выслалі да яго 1. VI. сёл. году сваіх дэлегатаў Паліцыя аднак займалася зганяньнем сялянскага быдла з спорнага пасьвішча, дэлегацыі-ж не прыняла і пагразіла сялянам кайданамі ў выпадку супраціву. У гэтай справе сяляне выслалі 2. VI. тэлеграму да ваяводы, што аднак не прынясло ніякіх рэзультатаў— гвалты прадаўжаются і надалей.

Уначы з 2 на 3 чэрвеня зьявіліся на пасьвішча п'яныя паліцыянты з „пшодоўнікам" Парафяночам на чале і сагналі начуючых з быдлам пастухоў. Пры гэтым паліцыя пабіла Сьцяпана Латаноўскага, страляла над галавамі пілнуючых быдла дзяцей і наканец арыштавала памянёнага Латаноўскага і аднаго з малалетніх пастухоў. Сьведкамі гэтых гвалтаў былі: Ігнат Камінскі з хвальварку Корчы, Пліскай гм., а таксама Ігнат Якубёнак, Балеслаў Казман і Антон Вяршылоўскі — з Лужак.

На другі дзень раніцай прыехаў на пасьвішча камандант пастарунку Кастшыцкі. Сваю прысутнасьць задакумантаваў тым, што пабіў пасьвячага быдла Пракопа Крыўку і прагнаў яго з пасьвішча, а яго быдла прагнаў у мястэчка Лужкі. Апрача таго арыштаваў Янку і Сьцяпана Мацэвічаў, і пратрымаўшы іх $1^{1}/_{2}$ пары на пастарунку, адаслаў пад моцным канвоем у Глыбокае разам з арыштованым 5 чэрвеня Дамінікам Гірэем і Ігнатам Якубоўскім. Да якой ступені бяспраўнымі былі гэтыя арышты, сьведчыць факт, што пракурор у Глыбокім, выслухаўшы рапарт паліцыі, звольніў арыштованых, навет не распытываючы іх.

Старальнасьць паліцыі і адміністрацыі дайшла да тае ступені, што паклікалі навет на месца уланаў для „ўсмірэньня бунту". Уланы вярнуліся з нічым і навет ротмістр Дамброўскі, які прыехаў з замерам грашеньня сялян, публічна выразіў абурэньне проці гэтакіх правакацыйных мэтадаў.

Паліцыя ня можа навет адмовіць сабе, каб не сфабрыкаваць з гэтай прычыны — палітычнай справы. Таму-та зышоўшыхся на рынку жыхароў падцягнула пад „недазволены сход", прыклікала ў мястэчка некалькі канфідэнтаў паліцыі і пачала ўжо фабрыкаваць матэр'ял да палітычнага працэсу. Чатыры грамядзяніны: Юльян Пліска, Антон Парфяновіч. Юльян Юхноўскі і Язэп Мяцеліца былі пакліканы 22 чэрвэня ў староства і прыгавораны на два месяцы вастрогу за... арганізаваньне сходу на рынку. Мала таго, правакацыя паліцыі дайшла да тае ступені, што пасаджаным ужо Антону Парфяновічу і Язэпу Мяцеліцы абяцалі звольніць і дэкляравалі 150 злот. месячнай пэнсіі пад варункам, што ўступяць на службу да палітычнай паліцыі і дадуць матэр'ялы для далейшых арыштаў сялян м. Лужкі.

Ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці ведае ён аб вышэй апісаных выпадках?

2) Ці склонны ён наўчыць адміністрацыйную ўладу ўсіх інстанцыяў, што споры за зямлю належаць у Польскай Рэспубліцы выключна да компэтэнцыі Суду?

3) Ці склонны ён пацягнуць да суровай адказнасьці вінных бяспраўнага ўмешваньня ў споры сялян м. Лужкі з Пляттэрзільбергам?

4) Ці віноўныя гвалтаў над сялянамі і правакацыі ў гэтай справе будуць пацягнены да карнай адказнасьці?

5) Ці і які загад маніцца выдаць, каб паўтараючыся штораз, то часьцей, факты ўмешваньня паліцыі і вышэйшай адміністрацыйнай улады ў споры сялян з абшарнікамі, а таксама фабрыкаваньні з гэтай прычыны палітычныя справы ня мелі надалей месца?

Варшава, 22 ліпня 1926 г. **Інтэрпэлянты.**



Выдавец: Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Друкарня Н. Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22